беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Аднoўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 26 (64)
30 верасьня
1996 г.

выходзіць у панядзелкі

ТЭЛЕПРАГРАМА



# Вайна з прэсай

24 верасьня рэдакцыя «НН» атрымала «Предупреждение» ад старшыні Дзяржкамдруку Бельскага. Гэта — чароговы факт кампаніі «папярэджваньня» незалежных беларускіх СМІ, якая праводзіцца ў краіне напярэдадні прэзыдэнцкага рэфэрэндуму. Паводле закону, каб закрыць выданьне, дастаткова двух такіх «Предупреждений».

Нагадаем, што зусім нядаўна была зачынена радыёстанцыя «101,2FM»; судовы зыск на закрыцьцё ад Дзяржкамдруку атрымала гарадзенская «Пагоня»; чарговае папярэджаньне адтуль жа атрымала газэта «Свабода»; нарэшце, папярэдзілі «НН»...

Што гэта — яшчэ толькі тэндэнцыя ці ўжо тэрор?

Тое, што незалежная прэса апынулася на пярэднім краі палітычнага супрацьстаяньня ў краіне, сьведчыць ня толькі пра аўтарытарныя замашкі рэжыму, але і пра слабасьць ды невыразнасьць апазыцыі. Калі СМІ мусяць вытрымліваць на сабе тыя ўдары, якія рэжым адрасуе сваім апанэнтам, гэта значыць, што пярэдні край апазыцыі ў Беларусі разбураны. Лішне казаць, што прамое палітычнае супрацьстаяньне не ўваходзіць у задачы СМІ, якія закліканыя ўсяго толькі сумленна інфармаваць грамадзтва. Таму зразумела, што прэса гэтага націску напроcту ня вытрымае і ў краіне застанецца толькі афіцыёзныя СМІ. Лягічнае пытаньне: хто наступны апынецца на пярэднім краі? Гісторыя сьведчыць, што ў такіх выпадках аўтарытарныя рэжымы пачыналі вынішчаць «глыбокі тыл» апазыцыі — ужо на фізычным узроўні.

*Падрабязна пра «Предупреждение» Бельскага — у нататцы «Дэклярацыя пра намеры» на старонцы 2.*



# ТАЯМНІЧЫ НЮРНБЭРГ

Да 50-х угодкаў заканчэньня Нюрнбэрскага працэсу. Матэрыялы Нюрнбэрскага працэсу над галоўнымі ваеннымі злачынцамі — праваоднымі фашыстоўскай Нямеччыны — у СССР ніколі не публікаваліся ў поўным аб'ёме. На тое ў Сталіна і ягоных наступнікаў былі свае прычыны. Якія?

Пра гэта — у артыкуле на 13-й старонцы.

## Заява ўраду ЗША

У мінулы чацьвер урад ЗША выступіў з афіцыйнаю заявай пра сытуацыю са свабодай слова ў Беларусі. Былі ўзгаданыя факты рэпрэсіяў супраць незалежных беларускіх газэтаў, а таксама закрыцьцё радыёстанцыі 101,2 FM. Асобна адзначана, што гэта была адзіная незалежная радыёстанцыя, якая вяшчала на беларускай мове. Такім чынам, упершыню ўрад ЗША зьвярнуў увагу і на нацыянальна-культурныя праблемы ў Беларусі.

**A.Dz.**

## Праз тэрыторыю Беларусі...

25 верасьня ў Варшаве падпісана пагадненьне пра пастаўкі расейскага газу ў Польшчу. Пагадненьне, заключанае на небывала вялікі тэрмін — 25 гадоў, выклікала вялікія дыскусіі сярод палітычных партыяў Польшчы. Правыя бачаць у пагадненьні ўсталяваньне залежнасьці Польшчы ад Расеі, левыя кажуць пра гарантаванасьць паставак паліва.

У кантэксьце пагадненьня фармулюецца асаблівая роля Беларусі, праз тэрыторыю якой пройдзе газапровод. Цяпер Польшча будзе як ніколі зацікаўленая ў захаваньні стабільнасьці ў Беларусі.

**A.Dz.**

## Сход каталіцкіх ерархаў Беларусі

28 жніўня ў Менску пачаўся Сьвяты Сынод архідыяцэзіі Менска-Магілёўскае і дыяцэзіі Пінскае Каталіцкае царквы ў Беларусі. Падчас інаўгурацыі ў Менскім Катэдральным саборы, пасьля ўрачыстай імшы было зачытанае пасланьне Папы Рымскага Яна Паўла II. Затым усё прысутнае сьвятарства прамаўляла разам «Сымбаль веры», па чарзе ставілі свае подпісы, наперад прысягаючы ў тым, што яны згодныя з рашэньнямі Сыноду.

На Сынодзе прысутнічалі ўсе рыма-каталіцкія і грэка-каталіцкія сьвятары Беларусі, за выключэньнем прадстаўнікоў Гарадзенчыны, бо там мае неўзабаве адбыцца ўласны Сынод. Сярод запрошаных прысутнічалі: ардынарый Гарадзенскае архідыяцэзіі а. Аляксандар Кашкевіч, апостальскі нунцы біскуп Дамінік Грушэўскі, апостальскі візытатар кангрэгацыі ўсходніх цэркваў, архімандрыт, прафэсар Каталіцкага ўнівэрсытэту ў Любліне а. Ян Сяргей Гаек, кіраўнік дэканату Беларускае Грэка-Каталіцкае Царквы протапрэсьвітар а. Ян Матусэвіч, мітрапаліт Беларускага Экзархату Маскоўскага Патрыярхату Расейскае Праваслаўнае царквы Філарэт, які прыемна ўразіў прысутных сваім выступленьнем па-беларуску.

Сыноды адбываюцца раз на год з мэтаю вырашэньня пераважна кадравых, адміністрацыйных, фінансавых і тэхнічных праблемаў. Першы Сынод у гісторыі Каталіцкае царквы ў Беларусі адбыўся летась. Але сёлетні Сынод упершыню быў настолькі прадстаўнічы: з прадстаўнікамі грэка-каталіцкае ерархіі. Абмяркоўваліся праблемы Уніі, адукацыі, аднаўленьня бажніцаў. Ня выключана, што на гэтым Сынодзе былі падняты і палітычныя пытаньні, але гэта вырашалася пры зачыненых дзьвярах і ў строга абмежаваным складзе, без удзелу гасьцей, учора, 29 верасьня. Надалей Сынод мусіць стаць пастаянным інстытутам.

**Сяргей Харэўскі**

## Сьмерць мастака

*25 верасьня ў Італіі трагічна загінуў вядомы мастак Мікалай Селяшчук. Крыху пра Селешчука — на старонцы 16. Больш падрабязна — у наступным нумары «НН».*



## АНКЕТА

На 15-й старонцы.

П а э т   у   т у р м е   К Г Б

## Паварот у справе С.Адамовіча

На мінулым тыдні ў справе паэта Славаміра Адамовіча, які чакае суда ў віцебскай вязьніцы, адбыліся пэўныя зьмены.

Судовая калегія Віцебскага абласнога суда накіравала справу Адамовіча ў Генпракуратуру РБ. Падставаю для такога рашэньня сталі выяўленыя віцебскімі юрыстамі шматлікія парушэньні крымінальна-працэсуальнага кодэксу з боку супрацоўнікаў КГБ падчас вядзеньня сьледства.

Сярод парушэньняў — вядзеньне сьледчым Сакольчыкам пратаколаў па-расейску, у той час як Адамовіч даваў паказаньні па-беларуску. Сьледчы ўзяў на сябе функцыю перакладчыка, хоць сам беларускай моваю валодае слаба. У такой сытуацыі, згодна з нормаю працэсуальнага кодэксу, перакладчык мусіў прысутнічаць абавязкова. Такім чынам, усе паказаньні Адамовіча, з фармальнага гледзішча, могуць лічыцца несапраўднымі.

Віцебскі суд зрабіў выснову, што Адамовіч і рэдактар віцебскай газэты «Выбар» Хамайда ў часе сьледзтва ня мелі адвакатаў, адмовіўшы ім з матэрыяльных прычынаў. Але яны мусілі мець дзяржаўных адвакатаў. Такім чынам, вынікі сьледзтва могуць быць аспрэчаныя, бо паказаньні былі атрыманыя ва ўмовах псыхалягічнага і маральнага ціску, без належнае юрыдычнае працэдуры.

Суд прызнаў сьледзтва малапрафэсійным, выявіў няпоўнасьць праведзенага расьсьледаваньня і адсутнасьць літаратурнае экспэртызы (!). Нагадаем, што Адамовіч ужо сёмы месяц знаходзіцца за кратамі і што галоўная падстава рэпрэсіі — ягоны верш «Убей президента!», апублікаваны ў газэце «Выбар».

Між тым, пракурор Віцебскай вобласьці праявіў залішні спрыт, адразу заявіўшы пратэст на высновы судовае калегі сваіх землякоў. Але, так ці йнакш, 11 кастрычніка ў Вярхоўным Судзе Беларусі а 9:30 адбудзецца паседжаньне ў гэтай справе, дзе будуць разглядацца вызначэньне Віцебскага суда і довады адвакатуры. На гэтым паседжаньні адвакат сп. Паганяйла зноў паставіць пытаньне пра вызваленьне Славаміра Адамовіча з-пад варты да сканчэньня сьледства і да суда. Можа прысутнічаць прэса.

**С.Х.**

### Новы зборнік вершаў С.Адамовіча

Літаральна ўчора да нас у рэдакцыю патрапіў новы зборнік вершаў Славаміра Адамовіча «Каханьне пад акупацыяй». Кніжка мае якаснае паліграфічнае выкананьне. Як стала вядома рэдакцыі, надрукаваная яна ў Варшаве за кошт фундатара, які пажадаў застацца невядомым.




**С.Х.**

# 13 новых Сьвятых

*Ватыкан кананізуе 13 сялян-уніятаў, забітых расейскімі войскамі ў 1874 годзе за нежаданьне пераходзіць у праваслаўе*

5 кастрычніка будзе афіцый на прынятае рашэньне аб кананізацыі Сьвятых пакут нікаў, што абараняли сваю царкву і веру, не жадаючы паддац ца прымусу акупантаў.

21 студзеня 1874 году сяляне беларускай вёскі Пратулін сабраліся на цьвінтары, каб ня даць казакам апаганіць бажніцу. Пратулінцы ведалі, што іх чакае. На тыдзень раней, 14 студзеня, расейцы расстралялі ўніятаў, якія баранілі сваю царкву ў недалёкім Дрэлёве **(там 13 чалавек загінула і каля 200 было паранена).**

Штыхі яны сустрэлі камянямі і дубцамі. Тады на загад палкоўніка Штэйна расейцы з-за паркану адкрылі агонь па людзях з харугвамі і крыжом. Дзевятнаццацігадовы Анікей Грыцюк кінуўся пад рулі стрэльбаў: «Страляйце, мы сьмерці не баімся!» Нават пад агнём людзі не спынялі сьпяваць «Прад вочы твае, Госпадзе...» 9 сялян палеглі на месцы, 180 былі параненыя, 4 зь іх неўзабаве памерлі. Гэтак расейцы распраўляліся зь першымі беларускімі дысыдэнтамі. Цэлы вечар 100 казакаў і 3 роты пяхоты катавалі пратулінцаў, а на наступны дзень усе мужчыны былі арыштаваныя і кінутыя ў вастрогі Берасьця і Белай Падляскай.


Расстрэл уніятаў у Пратуліне. Абраз у пратулінскай царкве.

Вось імёны Сьвятых пакутнікаў: Анікей Грыцюк, Лукаш Бойка, Анопры Васілюк, Піліп Герылюк, Максім Гаўрылюк, Міхал Ваўрышук, Вінцэнты Леванюк, Даніла Кармаш, Канстанцін Бойка, Гнат Франчук, Канстанцін Лукашук, Варфаламей Асіпук, Ян Андраюк.

Пасьля паўстаньня 1863-64 г., калі Каліноўскі ў сваёй «Мужыцкай праўдзе» зьвяртаўся да пачуцьцяў уніятаў, навернутых у праваслаўе, расейскія ўлады вырашылі дазваньня выкараніць унію, распачаўся шалёны перасьлед «заблудших». Архівы захавалі жахлівыя сьведчаньні пра тое, як адбывалася «дабраахвотнае вяртаньне» ва ўлоньне Маскоўскага патрыярхату.

Так, у малюпасенькай вёсцы Голубля (усяго 19 хатаў) карнікі спачатку сканфіскавалі ўвесь ураджай і наклалі кантрыбуцыю. Калі ж сяляне ўсё адно адмовіліся прыняць праваслаўнага папа, тады ўсіх мужчын зь вёскі вывелі на грэблю, на сьнег, і пратрымалі іх там 6 дзён, штовечара даючы па 400 нагаек. 5 галублян ня вытрымалі катаваньня і памерлі. Усіх астатніх мужчын, 22 чалавекі, вывезьлі ў ссылку ў Сібір. Але, нават страціўшы гаспадароў, жанчыны трымаліся старой веры, хавалі дзяцей у лесе, каб іх не хрысьцілі па-праваслаўнаму, а дзяўчаты зь вёскі, як і сотні маладых зь іншых месцаў, рызыкуючы жыцьцём, езьдзілі вянчацца ў Кракаў, абы ня здрадзіць бацькам. Даходзіла да жудасных сярэднявечных трагедый, як у вёсачцы Калода, дзе сям'ю Канюшэўскіх палаткамі давялі да жабрацтва за тое, што яны адмаўляліся хрысьціць дзіця па-праваслаўнаму. Калі ж гаспадару маёнтка, дзе Канюшэўскі-бацька звычайна працаваў у наймах, забаранілі даваць працу старому, Канюшэўскія замкнуліся ў хатцы і, трымаючы на руках дзяцей, самі сябе спалілі.


Стары ўніят з Голубля пасьля вяртаньня зь Сібіры.

Так было. Толькі ня помніцца.

Ужо зусім нядаўна ў Берасьці адбылася канфэрэнцыя пра унію, прысьвечаная памяці праваслаўнага пакутніка Сьв. Апанаса Філіповіча. Старшынём аргкамітэту быў былы выкладчык навуковага атэізму, а цяпер сакратар ЦК ПКБ сп. Акінчыц. На канфэрэнцыі гучала прыкладна тое ж, што мы можам кожны дзень чуць у «Панараме». Дзіўна, што ва ўсім гэтым удзельнічаў вядомы беларускі лінгвіст і перакладчык праф. Чарота.

Юбілей уніяцтва ня стаў падставай для дараваньня. Хаця грахоў перад братамі ў Хрысьце не бракуе ні ўніятам, ні праваслаўным.

**Андрэй Дынько**

Выхад у горад

# Сумны тост за восень

**Зьміцер Бартосік**

Занадта шмат гаварылася і ду малася пра сёлетнюю восень мінулаю вясной, каб пакінуць яе ў звычайным для гэтае пары спакоі. Хай у маім горадзе не было той вясны, а мне ўжо няўтульна тут без прыкметаў той анансаванай салідарнасьці. Хай яны будуць не такія гучныя, як выкрыкі праклёну з тысячаў глотак на сталічных вуліцах. І не такія заўважныя, як надпіс «Луку на муку» на будаўнічай агароджы. Але іх не павінна ня быць.

***

А ў мяне ў паштовай скрыні завялася новая газэта. З тэлепраграмай ды рэклямай. Прымусовая рэкляма, нарэшце, дакацілася й да Гомеля. Саўсем бальшы горад стаў. Няўжо ня ўсе яшчэ ведаюць, дзе знаходзіцца гандлёвы дом «ГРАНДТУР» ці дзе можна набыць кампутары Lintel? Цікава, колькі са ста трыццаці тысячаў атрымальнікаў газэты тыя кампутары набудуць? А галоўнае —навошта? Няўжо я адзін недаўмеваю й зьдзіўляюся нармальнаму жыцьцю за шыбамі? Дзе — вунь — пайшоў тралейбус. А ў ім едуць нейкія пасажыры. Няйначай па Lintel'ы. Ці на яшчэ камусьці ж патрэбную працу. Толькі мне няма патрэбы выходзіць на вуліцу. Можа, адсюль і пачуцьцё ненатуральнасьці падкрэсьлена-спакойнага жыцьця на ёй. Я ж ведаю — што павінна адбывацца за вокнамі, каб мне было немагчыма ўтрымацца ў хаце. Не канцэрт гурта «Браво» і ўжо, вядома, не футбольны мач, на якім памаладзелыя фаны будуць зь неапісальным захапленьнем размахваць варожымі мне сьцягамі, нават не здагадваючыся, што гэта можа кагосьці абразіць. Ня столькі тыя сьцягі, колькі іх недарэчнае спалучэньне з узростам сьцяганосцаў. Застаецца хіба толькі [illegible]эць сваю рэкляму. Хоць на тых жа фасадах. А то ўсе, напэўна, тут ужо забыліся, што Мы ёсьць. Як хутка толькі яна акупіцца?

***

У горадзе зьявіўся першы «Харлей



Дэвідсан». Іншаземны апарат зь незвычайна доўгаю «вілкай» ды натхнёна ўзьнятым рулём парушыў цішыню ды спакой майго тралейбуснага прыпынку. Увесь прыпынак змоўкнуў ды замёр, прыгноблены сваёй прозаю прад гэтай паэзіяй хуткасьці. Вуліца Савецкая здрыганулася ад такога антысавецкага выпаду. Усё яе ўбоства сьціснулася і адлюстравалася на выхлапной трубе гэтага мота-лімузына. Не саступаў сваёй машыне па стылі й кіроўца — ад пірацкае хусткі на галаве да шпораў з-пад скураных макасынаў, будучы ні ў якім разе не чалавекам прыпынку. Ён не зьбіраўся ні перад кім «малявацца». Ехаў па сваіх, аднаму яму ведамых, справах. Падруліў да прыпынку, дзе перакінуўся парай-тройкай словаў з гомельскімі дзяўчатамі, якія аж расквітнелі ад самога факту, што й яны ў «цілявізары» ўвагі ўсяго прыпынку. Ды паляцеў далей. Відовішча цягнулася нядоўга. Але колькі дзён пасьля я чуў ад самых розных людзей адно й тое ж пытаньне: «Відал?»

Бачыў. І нават трохі зразумеў, чым мота адрозьніваецца ад аўто. Помню, што першы гомельскі Мэрсэдэс ня выклікаў у мяне такога захапленьня й зьдзіўленьня. Адкуль?...

У якія нам адзеньні апрануцца? Якога асядлаць каня? Зь якой хуткасьцю праехаць Савецкую вуліцу, каб астатнім стала няўтульна й брыдка чакаць на сваім звыклым прыпынку невядома чаго? Тым больш, што нічога добрага яны не дачакаюцца. Нават калі



прыйдзе патрэбны ім тралейбус.

***

З падманным энтузіязмам пайшоў на сход нашых дэмакрытаў. Раней падманваць сябе не прыходзілася. Раней, сярод тысячы людзей і аднаго Пазьняка на сцэне, у залі, аб'яднанай адной эмоцыяй, мною авалодвала аптымістычная арыфмэтыка. Трэба было памножыць гэтую тысячу на іх сяброў, сваякоў ды добрых знаёмых, каб пэсымізму проста не знайшлося месца ў мазгах і душы.

Цяпер ідзеш, ужо баючыся натрапіць на якое-небудзь убоства ці ў поглядах ці ў словах. Ці дакладна ведаючы асноўны зьмест дакладаў. І, на жаль, не памыляесься... Ізноў тры гадзіны ішло бурнае абмеркаваньне ды разважаньне пра нашу зацятую барацьбу ў межах прававога поля. Вось напэўна кайф гэта ўсё паслухаць Ягоным шпегам. Тым больш, што ўсе прысутныя разумеюць, што той на адным полі з намі й... ня стане. Адзінае, хоць павітаўся з Вострыкавым ды Клімовічам. Людзьмі, рукі якіх яшчэ памятаюць, як перазараджаецца вінтоўка й што такое кайло. І перад якімі я заўсёды адчуваю няёмкасьць за мой час, да якога ім Бог даў дажыць. І які не паставіў яшчэ перад мною выбару паміж вінтоўкай і кайлом.

***

Трэці дзень безь перастанку ідзе дождж. Глядзець за вакно брыдка, а выходзіць — увогуле сьмерці падобна. І раптам званок. На парозе прыяцель-нацыяналіст — поўная супрацьлегласьць надвор'ю. Поўная пляшка «Клімавіцкай» у руках і аж перапоўненая радасьцю ад жыцьця фізіяномія. Я ніколі ня бачыў яго іншым. Якое б надвор'е ні было й якую б брыдоціну ні несьлі па радыё. У чым тут справа? Дзе сакрэт той жыцьцярадасьці? У пяці гадах, што аддзяляюць нас? У гарачай палескай крыві? Ці ў «Клімавіцкай»? Якую мы выпілі за гэтую восень. Чым не нагода? Усё ж яна пачалася.

МІЖНАРОДНЫ КАМЭНТАР

# У Ерэване правілася кроў

Паводле папярэдніх падлікаў, цяперашні прэзыдэнт Арменіі Лявон Тэр-Петрасян на прэзыдэнцкіх выбарах набраў 52% галасоў выбарцаў, а ягоны супернік ад Народнага Нацыянальнага Зьвязу Вазген Манукян — 41%.

Як бачна, гаворка ўжо ня йдзе пра 57%, абвешчаных Тэр-Петрасянам адразу пасьля выбараў. Пад націскам апазыцыі цэнтрвыбаркам паабяцаў пераглядзець вынікі галасаваньня. Дзясяткі тысяч людзей выйшлі на вуліцы Ерэвана, каб запатрабаваць адстаўкі Тэр-Петрасяна. Дэманстранты паспрабавалі прарвацца ў двор парлямэнту, але іх адцясьнілі. У сутычках адзін чалавек загінуў, блізу 20 былі параненыя. Афіцыйныя ўлады абвяргаюць паведамленьні пра забітага. У краіне ўведзена надзвычайнае становішча, у сталіцу ўвайшла бронетэхніка. Парлямэнт даў згоду на арышт апазыцыйных дэпутатаў, спэцназаўцы вывелі семярых дэпутатаў проста падчас паседжаньня. На волі застаўся толькі сам Манукян.

Арменія стаіць на парозе ператварэньня ў краіну зь дзьвюхпартыйнай сыстэмай: Армянскі Нацыянальны Рух пры ўладзе плюс непапулярная кампартыя (4% галасоў). Найбуйнейшая апазыцыйная партыя дашнакаў была забароненая ўжо даўно па абвінавачаньні ў тэрарызьме. Цяпер улады крушаць рэшткі апазыцыі, якая, падобна, насамрэч атрымала перамогу.

Прэзыдэнт Расеі Ельцын, не чакаючы афіцыйных вынікаў выбараў, павіншаваў Тэр-Петрасяна зь перамогай і асудзіў дзеяньні апазыцыі.

Лявон Тэр-Петрасян пачаў палітычную кар'еру з турэмнага зьняволеньня ў складзе камітэту «Карабах». Па выхадзе зь вязьніцы ён стае лідарам тагачаснай дэмакратычнай апазыцыі, і неўзабаве яго абіраюць на прэзыдэнта.

Было дзіўна, чаму пасьля віленскіх падзеяў 13 студзеня 1991 году менавіта заўжды змрочнага Петрасяна разам з заўжды вясёлым Дзямянцеем накіравалі ў якасьці прадстаўнікоў Зьезду народных дэпутатаў у Вільню — расьсьледаваць, што адбылося. Даклад яны адтуль прывезьлі ўхілісты ды неканкрэтны.

Пасьля распаду імпэрыі Арменія, заціснутая між Азэрбайджанам і Турцыяй, стае найлепшай хаўрусьніцай Расеі ў Закаўказьзі, першай пагаджаецца прыняць расейскія вайсковыя базы і атрымлівае адну за адной бліскучыя перамогі ў Нагорным Карабаху.

Перад выбарамі ў Расеі Тэр-Петрасян найбольш адкрыта з усіх лідараў СНГ падтрымаў Ельцына.

Дагэтуль армянскае грамадзтва стойка супраціўлялася росту дыктатарскіх тэндэнцыяў. Так, летась, насуперак прагнозам, на каталікоса Армянскае царквы ня быў абраны кандыдат, падтрыманы Тэр-Петрасянам.

Арменія — ужо другая пасьля Альбаніі краіна, дзе заходнія назіральнікі выказваюць безьліч заўвагаў наконт парушэньняў на выбарах, але не аспрэчваюць самі вынікі галасаваньня.

**Андрэй Дынько**

АМЭРЫКА — ЗБЛІЗКУ

# Панаваньне брунэтак

*Што здарылася з амэрыканскім захапленьнем бляндынкамі?*

**Стывэн Чэпмэн**

Джэнэрал Мілз (кандытарская фірма. – У.Б.) адкрыла новую Бэці Крокер (прыдуманае імя жанчыны-сымбалю, накшталт Анкла Бэнса, якая прысутнічае на пакунках зь печывам ці аўсянымі шматкамі –У.Б.): колішняя прыгажуня нардычнага выгляду саступіла месца прыгажуні, выбранай зь сямідзесяці сямі жанчын са скурай аліўкавага колеру, цёмнавалосых і цемнавокіх, што «ўвасабляюць Дух Бэці Крокер». Новая Бэці зь лёгкасьцю магла б быць азіяцкага, гішпанскага, арабскага, індыйскага ці наогул дзьвюхрасавага паходжаньня. Рэакцыяй на гэтую новую амэрыканскую мультыкультурную ікону было ўсхваленьне Джэнэрал Мілз, якая прадэманстравала новы падыход. Журналіст з газэты «San Diego Union» Пітэр Раў, напрыклад, напісаў, што са зьяўленьнем новай Бэці Крокер «мы бачым болей, чым некага, хто прагна накінуўся на шакалядныя тарты. Мы бачым саміх сябе ды сваю краіну». Няма сумневу, што ў некаторых колах гучалі незадаволеныя галасы пра раптоўнае навяртаньне фірмы да палітычнай карэктнасьці. Але, як таго й трэба было чакаць, панавала ўсё ж абыякавасьць.

Рэч у тым, што клясычная рудавата-брунатная каліфарнійская пляжная дзяўчына можа быць нагэтулькі ж сьвятым нацыянальным сымбалем, як зорна-паласаты сьцяг ЗША. Хоць я і не падзяляю такога трапяткога стаўленьня, але прырода дала мне выразную любоў да жанчын знойнага міжземнаморскага тыпу і даволі нізкі парог надакучлівасьці ад жанчын зь сьвятлейшым адценьнем. Амэрыканская папулярная культура ўпарта адмаўляецца прыстасавацца да гэткага густу – майго густу – аддаючы перавагу арыйскаму стандарту прыгажосьці.

Пасьлядоўнікі Бьюкенана (аднаго з прэтэндэнтаў у прэтэндэнты на пасаду прэзыдэнта, вельмі кансэрватыўнай панамэрыканскай арыентацыі. – У.Б.) скардзяцца, што нашыя эміграцыйныя законы нясуць непажаданую этнічную трансфармацыю, калі малочнаскурыя эўра-амэрыканкі выцясьняюцца смуглявымі ўцякачкамі з Трэцяга Сьвету. (Якраз на мой густ.) У старыя часы ў многіх месцах краіны знайсьці чарнавокую прыгажуню было гэтак жа лёгка, як бутэльку віскі ў Біблійным Поясе (населены пераважна кансэрватыўнымі хрысьціянамі-фундамэнталістамі Поўдзень ЗША. –У.Б.). Сёньня на кожнай вуліцы бляндынкі маюць дастаткова канкурэнтак. Нават Барбі, колішняя чыстакроўная Валькірыя, цяпер мае ўсе колеры вясёлкі.

Але ў асноўным нашыя эстэтычныя нормы моцна замацаваліся ў «адбеленыя» пяцідзясятыя гады. ЗША – не скандынаўская краіна, але калі чуеш выраз «сапраўднаамэрыканская дзяўчына», у галаву прыходзіць вобраз клясычнай блакітнавокай бляндынкі. Да сваёй нядаўняй паразы Бэці Крокер заўсёды выглядала як скарб мясцовай філіі Амэрыканскай Асацыяцыі Спрыяньня Швэдзкай Культуры. Пашчоўкайце каналы ранішніх праграмаў тэленавінаў і вы ўбачыце вядучых Джоан Лундэн, Раўлу Зан ды Кэці Каўрык, бляндынкі – дзьве да аднае, што ёсьць істотным паляпшэньнем у параўнаньні з выбеленай аднастайнасьцю эры Джэйн Паўлы. Рэкляма? Рок відэа? Аўташоў? Ва ўсіх гэтых галінах пануюць бляндынкі. Не было дзіўным, што Тыра Банкс – першая чарнаскурая жанчына, якая патрапіла на вокладку спартовага часопіса «Sports Illustrated», мае белакурыя валасы ды зялёныя вочы. На афраамэрыканку яна ня дужа падобная.



Галівуд у гэтым пляне – найгоршы злоўжывальнік. Кінастудыі любяць гадаваць зорак зь ліку высокіх, цёмных ды прыгожых мужчынаў, нават калі яны й ня надта прыгожыя: Том Круз, Том Хэнкс, Рычард Гір, Сыльвэстар Сталонэ, Дэнзэл Вашынгтон, Рэй Ліёта і г.д. А як наконт бляндынаў? Ну, хіба што Робэрт Рэдфард ды Брэд Піт, выбар ня надта вялікі.

Але амаль усе жаночыя экранныя сырэны ўсё адно як выбраныя з нашчадкаў гітлер-югенду. Галівудзкія прадусары маюць свайго роду шаблён, на які выбіраюць акторак: Шэран Стоўн, Мішэль Пфайфэр, Дэрыл Гана, Памэла Андэрсан Лі, Кім Бэсынджэр, Мэлані Грыфіц, Аліса Сільвэрстоўн. Жанчыны такога тыпу складаюць 98% жаночых рамантычных роляў у эратычных трылерах, якія дэманструюцца на кабэльных каналах. Ну, а для мяне застаецца невялікі выбар з Мэдлін Став, Уітні Х'юстан ды Пакахонтас.

Нават і гэтым, сумна сказаць, не гарантаванае доўгае жыцьцё на экране. Яны зьяўляюцца на некаторы момант, а пасьля зьнікаюць у асьляпляльным зьзяньні копнаў залатых валасоў. Ну хто, апроч нас, фанатаў брунэтак, можа прыгадаць Элізабэт Пэну ці Алівію Хасі? Яны пранесьліся па небе, як каметы, ды праваліліся ў чорную дзірку. Ці, можа, гэта была цёмна-брунатная дзірка?

Рэдкая брунэтка, якая зьяўляецца як адказ на нашыя малітвы, вельмі хутка вылівае на сябе бочку перакісу вадароду. Сандра Булак была брунэткай у фільме «Хуткасьць» і пасьвятлела ў фільме «Двое ў моры». Марыза Томэй пераканаўча глядзелася ў «Мой кузэн Віні» ды беспамылкова па-кубінску ў «Сям'і Пэрэса», але таксама вельмі хутка набыла пасмы колеру нью-ёркскіх таксі. Складваецца такое ўражаньне, што Галівуд мае нейкую алергію на брунэтак. Дэмі Мур паказала, што жанчыны з каштанавымі валасамі могуць зрабіцца сэксуальнымі багінямі, але толькі ў тым выпадку, калі рызыкуюць схапіць пнэўманію ад пастаяннага знаходжаньня ў аголеным стане.

Дык што такога кепскага ў бляндынках? Існуюць тэорыі, што яны закранаюць нешта глыбокае ў мужчынскай псыхіцы, зьяўляючыся вобразам маладосьці ды нявіннасьці. (Як Трэйсі Лордс?) Маладосьць ды нявіннасьць – гэта добрыя якасьці, што цэняцца пры найме на працу ў Дыснэй-Лэндзе. Але некаторыя з нас не Гумбэрты Гумбэрты, і мы ня бавім нашыя начныя гадзіны ў марах пра несапсаваных дзяцей ці нават пра юрлівых дзяўчатак-падлеткаў. Мы хочам жанчын, якія не выглядаюць, як перафарбаваныя манэкены. Бляндынкі могуць быць сьвежыя, салодкія, прыгожыя, але такімі якасьцямі можна праз некаторы час перасыціцца. Брунэткі значна лепшыя, калі вы хочаце таямнічую, пякучую ды, будзьма тут шчырымі, трохі распусную.

Самы вялікі іх недахоп у тым, што большасьць бляндынак – зусім не бляндынкі. Захапленьне імі звычайна вымагае падаўленьня недаверу, які многія з нас проста ня могуць перамагчы. А ці чулі вы калі пра жанчыну, якую б называлі «натуральная брунэтка»? Безумоўна не: іншых проста не існуе. У процілегласьць гэтаму, натуральная бляндынка – вялікая рэдкасьць, як вялікі алмаз. Калі вы падрыхтаваныя да тэхналягічна распрацаванай і штучна створанай прыгажуні – сіліконавыя грудзі, прааперыраваныя пластычным хірургам нос, падбародзьдзе, вусны, вушы ды каляровыя кантактныя лінзы –тады, няма сумневу, бляндынкі якраз для вас. А калі вы хочаце навучыцца цаніць жанчыну ў яе найвышэйшай натуральнай форме, тады вам трэба прывучаць густ да цёмных разнавіднасьцяў. Гэта нагадвае пераход ад піва Budweiser да Glenfiddich і вымагае трохі высілкаў.

Выхаваньне свайго густу паставіць вас у апазыцыю да татальных стандартаў нашага часу ды зьменшыць вашае задавальненьне ад нашых забаўляльных сродкаў масавай інфармацыі. Але вы мусіце быць цярплівымі. Праз гады я дарэмна шукаў сэкс-сымбаль, які б пасаваў майму нестандартнаму густу, і ўжо амаль адмовіўся ад гэтага пошуку. Але аднойчы я зайшоў у ліфт і злавіў там позірк жанчыны з бліскучымі чорнымі валасамі ды бяздоннымі карымі вачыма. Ведаеш, чытач, я зь ёй ажаніўся.

*The American Spectator*

**Пераклаў Уладзімер Баранін**

# Kalandar

## 30 vieraśnia

U hety dzień... naradziłasia Zośka Vieras (1892-1991), biełaruskaja piśmieńnica. Data pryvodzicca pavodle staroha stylu tamu, što mienavita jana stała padstavaj dla litaraturnaha pseŭdonimu.

Pamior u Maskvie Mitrafan Daŭnar-Zapolski (1867-1934), biełaruski historyk i etnohraf.

## 1 kastryčnika

U hety dzień... naradzilisia: Jazep Drazdovič (1888-1954), biełaruski mastak; virtujoz fartepijana Vladimir Horovitz (1904-89); tryccać dziaviaty prezydent USA James Earl Carter (1924).

## 2 kastryčnika

U hety dzień... naradzilisia: anhielski karol Ryčard III (1452-85); Mahatma Gandhi (1869-1948), indyjski patryjot i hramadzki refarmatar, duchoŭny pravadyr zmahańnia za niezaležnaść Indyji; brytanski piśmieńnik i dramaturh Graham Green (1904-91).

## 3 kastryčnika

U hety dzień... *

## 4 kastryčnika

U hety dzień... u 1957 h. rasiejcy vyvieli na kalaziamnuju arbitu kaćmičny spadarožnik Sputnik I, heta byŭ pieršy štučny satelit Ziamli.

## 5 kastryčnika

U hety dzień... u 1914 h. źjavilisia pieršyja ŭ historyji achviary pavietranych bajoŭ. U niebie nad Francyjaj z karabinu, što byŭ ustalavany na francuskim samalocie, byŭ źbity niamiecki samalot-raźviedčyk (pilot i ahladalnik zahinuli).

Naradzilisia: francuski pačynalnik fatahrafii Louis Jean Lumiere (1864-1948), jaki razam z bratam Augustam vynajšaŭ kiniematohraf; Vaclav Havel (1936), českі dramaturh, apošni prezydent Čechasłavakii i ciapierašni prezydent Českaj Respubliki.

## 6 kastryčnika

U hety dzień... u 1596 h. zaklučana pahadnieńnie pamiž pravasłaŭnaj i katalickaj cerkvami ŭ Biełarusi ab abjadnańni — Bieraściejskaja carkoŭnaja unija; u 1981 h. musulmanskija ekstremisty ŭ časie vajskovaha paradu zabili prezydenta Ehiptu Anvara as-Sadata.

Naradzilisia: švejcarski architektar Le Corbusier (1887-1965), jaki kazaŭ, što «dom — heta mašyna dla žycharstva», i narveski antrapolah Thor Heyerdal (1914), kiraŭnik słavutaha padarožža na płycie «Kon-Tiki».

U 1927 h. ŭ New Jorku adbyŭsia pieršy publičny pakaz hukavoha kino. Heta była stužka pradukcyi Warner Brothers «Špiavak jazz-bandu».

** Šanoŭny Čytač, mahčyma, Vy viedajecie, što istotnaje albo cikavaje adbyłosia ŭ hety dzień. Redakcyja «NN» budzie ŭdziačnaja Vam za padkazku.*



# Каб кватэра была цёплай

Большая частка цепловой энэргіі ацяпляльнай сыстэмы ідзе на тое, каб перакрыць страты цяпла, а яны ў кватэры з цэнтральным ацяпленьнем і водазабесьпячэньнем выглядаюць так (%):

З-за няўцепленых вокнаў і дзьвярэй — 40%, праз ваконнае шкло — 15%, празь сьцены — 15%, праз столь і падлогу — 7%, пры карыстаньні гарачай вадой — 23%.

**Вокны**. Калі ўшчыльніць на зімовы час дзьверы гаўбца, то ў кватэры захаваецца столькі цеплыні, колькі можа страціцца праз адтуліну дыямэтрам 20 см.

Для зьмяншэньня стратаў цяпла ў кватэры трэба найперш своечасова падрыхтаваць да зімы вокны.

Калі з вокнаў дзьме, трэба памяняць пракладкі, а калі іх няма, то ўстанавіць іх ізноў.

Для ўшчыльненьня ваконных пераплётаў лепш ужываць пракладкі з пэнаполіўрэтана. Такі паралёнавы шнур прадаецца ў гаспадарчых крамах.

Па пэрымэтры рамы вакна ці дзьвярэй гаўбца накладзіце палоскі так, каб яны не перашкаджалі зачыняць вакно ці дзьверы на ўсе зашчапкі. Ня трэба прыбіваць паралён цьвікамі. Прасьцей гэта зрабіць з дапамогай клею (БФ-2) ці алейнае фарбы таго самага колеру, якім пафарбавана вакно. Раму па пэрымэтры прамазваюць тонкім слоем клею ці фарбы, зьверху ахайна накладваюць паралён.

Пры наклейцы пракладкі ваконны створ нельга зачыняць датуль, пакуль не прасохне клей. Інакш пракладка прамокне ад клею і страціць пругкасьць.

Спараныя вокны можна надзейна ўцяпліць з дапамогаю пасты, якая складаецца з крэйды (2 часткі), мучнога клею для шпалераў ці мукі (1 частка) і вады. Пастай роўна запаўняюць паглыбленьні паміж створамі. Крэйдавую пасту можна замяніць глінна-зямной (1 частка гліны, 2 часткі пяску). Увесну досыць адчыніць рамы, і замазка абсыпецца.

Калі на працягу зімы Вы ня думаеце адчыняць вакно, яго можна ўцяпліць ватай і палоскамі паперы. Вату забіваюць у шчыліны, затым накладваюць паперу і прыклейваюць яе шпалерным клеем. Прычым клею спатрэбіцца няшмат, а гермэтычнасьць будзе забясьпечана. Сілікатным клеем карыстацца ня варта: Вы рызыкуеце сапсаваць шкло.

Не забудзьце спраўдзіць, ці ўсё шкло ў Вашым доме прамазана ваконнай замазкай. Калі ў некаторых месцах яна патрэскалася, значыць, непазьбежны ўцёк цяпла. Карыстацца ваконнай замазкай, якая кансыстэнцыяй нагадвае пластылін і прадаецца ў кожнай гаспадарчай краме, вельмі проста. Адрэзаўшы нажом кавалак замазкі, разьмякчэеце яе ў руках і потым накладваеце на патрэбнае месца і выраўноўваеце нажом ці долатам.

Каб вокны ўзімку не пакрываліся кандэнсаванай вільгацьцю, пастаўце паміж рамамі шклянкі, на трацціну напоўненыя салянай кісьлінай: яна зьбярэ ўсю лішнюю вільгаць.

Узімку вокны замярзаюць. З тае прычыны, што такія вокны кепска прапускаюць сьвятло, трэба ўключаць раней лямпу, а значыць, выдаткоўваць лішнюю электраэнэргію. Сашкрабаць лёд ня варта: можна разьбіць шкло. Лепш насыпаць на анучку солі і вельмі добра працерці ёй некалькі разоў вокны. Соль адразу ж "зьесьць" лёд, і шкло стане чыстым і празрыстым. Ёсьць і іншы мэтад — працерці шкло сумесьсю з гліцэрыну (1 частка) і дэнатурату (20 частак).

**Аббіўка дзьвярэй**. Для аббіўкі дзьвярэй Вам спатрэбяцца дэрмантын ці скуразамяняльнік, вата ці паралён, мэблевыя цьвікі з дэкаратыўнай плешкай. Здыміце дзьверы з завесаў і пастаўце гарызантальна, каб было зручна працаваць. Пры гэтым здыміце ўсе дэталі, якія замінаюць працы — ручку, ключавіну і інш.

У залежнасьці ад таго, у які бок адчыняюцца дзьверы — унутар памяшканьня ці вонкі — могуць быць два варыянты ажыцьцяўленьня працы. Калі дзьверы адчыняюцца вонкі, то выкройваюць з дэрмантыну палатно, якое даўжынёй і шырынёй павінна быць на 100 мм большым за дзьверы, затым з трох бакоў зразаюць тры паласы шырынёй 140 мм: даўжыня адной павінна быць роўная вышыні дзьвярэй, даўжыня дзьвюх іншых — шырыні.

Зь ніжняга і верхняга бакоў дзьвярэй і краю створкі фармуюць валікі. Для гэтага выкраеныя палосы накладваюць на адпаведныя краі дзьвярэй пярэднім бокам уніз, прыбіваюць іх да дзьвярэй. На гэтыя палосы накладваюць скручаныя з ваты валікі дыямэтрам 30 мм. Нацягваючы, матэрыял заварочваюць на валік і прыбіваюць яго да дзьвярэй так, каб валік напалову зьвешваўся над кантам дзьвярэй і прыкрываў шчыліну паміж дзьвярной каробкай і дзьвярыма.

Затым па плашчыні дзьвярэй расьсьцілаюць вату, зьверху накладваюць дэрмантын так, каб з таго боку, дзе дзьверы навешваюць на завесы, палатно мела запас 60-80 мм. У створкі дэрмантын падварочваюць і прыбіваюць кант мэблевымі цьвікамі (пры гэтым трэба сачыць, каб плешкі цьвікоў, што прымацоўваюць валік, былі закрыты палатном дэрмантыну. Цьвікі забіваюць на адлегласьці 80-100 мм адзін ад аднога. Такім самым чынам прыбіваюць палатно зьверху і зьнізу. У апошнюю чаргу прымацоўваюць палатно з навеснага боку дзьвярэй, дзе месьцяцца завесы. У адпаведнасьці з прадуманым малюнкам прыбіваюць палатно ў цэнтры дзьвярэй, каб вата ня рухалася.

Потым ставяць на месца ўсе дэталі і навешваюць дзьверы. Затым у навеснага канту дзьвярэй край палатна, які зьвісае, прыбіваюць мэблевымі цьвікамі да ліштвы.

Крыху іначай трэба дзейнічаць, калі дзьверы адчыняюцца ўнутар памяшканьня. У адпаведнасьці з памерамі дзьвярэй з палатна дэрмантыну выкройваюць чатыры паласы шырынёй 140 мм і даўжынёй, роўнай вышыні кожнага боку дзьвярной каробкі (але не дзьвярэй).

Да ніжняга краю дзьвярэй прыбіваюць валік так, каб пры зачыненых дзьвярах ён заходзіў на парог. Палатно дэрмантыну раскладваюць на слоі ваты і прыбіваюць будаўнічымі цьвікамі. Толькі пасьля гэтага фармуюць валікі на двух уздоўжных і верхнім бруcках дзьвярной каробкі і прыбіваюць іх мэблевымі цьвікамі так, каб верхні падвернуты край дэрмантыну перакрываў ніжні.

Дзьверы, абабітыя з выкарыстаньнем уцяпляльніка, і выглядаюць прыгожа, і перашкаджаюць страце цяпла.

**Мэбля**. Яе трэба расставіць такім чынам, каб не перашкаджаць цыркуляцыі цёплага паветра ад батарэі: толькі тады ў кватэры будзе цёпла. Цеплааддача ацяпляльных прыбораў пры ўстаноўцы насупраць іх мэблі і суцэльных дэкаратыўных панэляў зьніжаецца на 20%.

**Радыятар ацяпленьня**. Не ўсталёўвайце побач з радыятарамі мэблю, не закрывайце разнастайнымі краткамі і шчыльнымі фіранкамі.

Перад чарговай афарбоўкай радыятараў прыбярыце зь іх старую фарбу. Тоўсты слой фарбы зьніжае цеплааддачу радыятараў.

**Інфармацыя да роздуму**

Праз няшчыльна зачыненыя дзьверы пад'езду выносіцца цяпло, для атрыманьня якога штогадзіны ў катлоўні спальваюць 4 кг вугалю.

**Вэнтыляцыя**. Калі выразаць з абутковай каробкі кардонку пэўнага памеру і прасунуць яе пад краткі вэнтыляцыі на кухні, то праз пэўны час тэмпэратура ў кватэры павысіцца з 14° да 21°C. Такі просты і ўсім даступны спосаб дазваляе ўзімку захаваць у нашых кватэрах нямала цяпла. Прычым такой кардонкай, нібыта фарсункай, можна рэгуляваць тэмпэратуру ў пакоях.



# Фарбуем вопратку і тканіну

Калі на вопратцы пасьля працяглае ноські зьявіліся плямы ад сонца, то яе можна перафарбаваць у іншы колер ці падфарбаваць, аднавіўшы першапачатковую афарбоўку.

Афарбоўку вопраткі і тканінаў робяць фарбавальнікамі, прызначанымі для адпаведных валокнаў.

Трэба памятаць, што той колер, які пазначаны на пакунку, можа быць атрыманы толькі пры афарбоўцы белых тканінаў.

Пры перафарбоўцы ж каляровых тканінаў адценьні атрымліваюцца іншыя, заўсёды больш цёмныя і насычаныя. У табліцы пазначаны колеры, якія атрымліваюцца пры перафарбоўцы каляровых тканінаў.

Тонкія тканіны перад афарбоўкай варта прапаласкаць у рашчыне нашатырнага сьпірту (з разьліку 50 г 25% нашатырнага сьпірту на 10 л вады), а затым у чыстай вадзе.

Для афарбоўкі каляровай тканіны ў іншы колер яе трэба папярэдне адбяліць.

Перад адбельваньнем і фарбаваньнем папярэдне варта паспрабаваць на невялікім кавалку тканіны.

Перад афарбоўкай трэба спароць з вырабу ўсю мэталёвую і пластмасавую фурнітуру.

У цьвёрдай вадзе фарбавальнікі зьвязваюцца з валокнамі тканіны нетрывала, таму перад афарбоўкай у цьвёрдай вадзе яе трэба зьмякчыць, дадаўшы 1 сталовую лыжку кальцанаванай соды на 10 л вады, а асадак адфільтраваць.

Ёмкасьць баку для фарбаваньня павінна быць 10-12 л на кожныя 800 г вырабу. Найлепей для фарбаваньня выкарыстоўваць эмалевы посуд.

| **Зыходны колер тканіны** | **Колер фарбы** | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Брунатны | Чырвоны | Сіні | Жоўты | Шэры | Фіялетавы | Зялёны |
| Брунатны | Брунатны | Чырвона-брунатны | Цёмна-брунатны | Жоўта-брунатны | Брунатны | Цёмна-брунатны | Аліўкавы |
| Сіні | Цёмна-брунатны | Фіялетавы | Сіні | Зялёны | Шэра-сіні | Сіне-фіялетавы | Сіне-зялёны |
| Чырвоны | Чырвона-брунатны | Чырвоны | Фіялетавы | Аранжавы | Цёмна-брунатны | Чырвона-фіялетавы | Брунатны |
| Фіялетавы | Цёмна-брунатны | Чырвона-фіялетавы | Сіне-фіялетавы | Аліўкавы | Шэра-фіялетавы | Фіялетавы | Марской хвалі |
| Зялёны | Аліўкава-брунатны | Брунатны | Сіне-зялёны | Сьветла-зялёны | Шэра-зялёны | Марской хвалі | Зялёны |
| Жоўты | Жоўта-брунатны | Аранжавы | Зялёны | Жоўты | Абарончы (хакі) | Аліўкава-кбрунатны | Сьветла-зялёны |
| Шэры | Брунатны | Цёмна-брунатны | Шэра-сіні | Абарончы (хакі) | Шэры | Шэра-фіялетавы | Шэра-зялёны |

# Як купляць абутак?



Грэцкі бог гандлю і вандроўнікаў Гермэс аніякіх праблемаў з абуткам ня меў. Ягоным крылатым сандалям, што да таго ж ня зношваліся, маглі б пазайздросьціць многія людзі, якія ўвесь час скардзяцца на няякасны і дарагі абутак.

**Як слушна выбіраць абутак**

Абутак трэба падбіраць паводле памеру і паўнаты ступні, інача яна будзе дэфармавацца.

Выбіраючы абутак, трэба зьвяртаць увагу на тое, як ён выглядае. Калі пантофлі зроблены салiднай фірмай з сусьветным імем, Вы пабачыце гэта паводле дакладна спрацаваных дэталяў, скончанага сылюэту (шаўцы называюць сылюэт абутку "скончаным", калі ён выглядае прыгожа зьверху, збоку і ззаду).

У такога абутку не бывае дробных дэфэктаў: неахайна выразаных дэталяў, незамацаваных сьцяжкоў і строчак. Акрамя таго, фірмовыя вырабы заўсёды выразна маркуюцца: на падэшве звычайна стаіць знак фірмы, якая выробляе гэтыя самыя падэшвы, а вось таўро абутковай фабрыкі ставіцца нярэдка ў раёне халявы на ботах ці на пятцы ў пантофляў.

Калі ж такіх сьведчаньняў высокага ўзроўню вытворчасьці няма, хаця ёсьць маркаваньне, значыць, Вам не пашанцавала. Вы набылі падробку.

**Дэфэкты абутку**

Практыка паказвае, што дэфэкты ўплываюць ня толькі на вонкавы выгляд, але й на эксплюатацыйныя ўласьцівасьці абутку.

Найчасьцей мы бядуем з-за адклейваньня падэшвы — зьяўленьня шчыліны паміж верхам і нізам абутку; з-за гэтага ногі ў дождж мокнуць, і калі Вы захварэлі праз гэта толькі на катар, то Вам пашанцавала.

Іншы дэфэкт — няформаўстойлівасьць абутку: мысковая і пяткавая часткі хутка набываюць форму, далёкую ад ідэалу. Носячы такі абутак, Вы націраеце сабе ногі.

Вялікае практычнае значэньне мае матэрыял, зь якога зроблены абутак. Калі ён не адпавядае патрабаваньням, верх абутку і падбіўка хутка забруджваюцца.

Няслушнае ўсталяваньне абцасаў ці перакосы прывядуць да звальваньня ступні, а так недалёка і да правісаньня пяткі.

Калі Вы купляеце жаночы абутак, зьвярніце ўвагу на мацаваньне зашпілек — ці ня будуць яны драць панчохі. Усе мэталёвыя дэталі зашпількі павінныя быць ізаляваны ад нагі стужкай з тонкае скуры.

Натуральнае футра мацуецца як у халяве бота, гэтак і ў мысковай частцы абутку. Але сёньня "фірмачы" могуць замацаваць у мыску і штучнае футра, з-за чаго абутак пазбаўляецца пэўных цеплаахоўных уласьцівасьцяў.

На прылаўках нашых крамаў цяпер часта рэалізуюць тавар, які доўга праляжаў на складах. Натуральна, што купляць яго ня варта. Такі абутак лёгка распазнаць. Звычайна ён надзвычай запылены, дэфармаваны, а пры націсканьні на строчку, якая мацуе дэталі, могуць парвацца шыўкі.

**Скура ці замяняльнік?**

Натуральная скура заўсёды цёплая. Гэта проста праверыць — дастаткова дакрануцца да скуранай паверхні.

Пры судакрананьні са штучнай скурай пальцы ці далонь пацеюць. Паверхня яе вонкава бездакорная, на ёй не бывае драпінаў, яна вельмі гладкая, чаго ня скажаш пра натуральную скуру: ніводзін сантымэтар натуральнай скуры не падобны да суседняга.

Штучная скура кепска паддаецца фармоўцы, у выніку чаго ў мысковай і пяткавай частках абутку зьяўляюцца складкі. Абутак з такой скуры не разношваецца і не прымае формы нагі.

Вільгаць, якую вылучае ступня чалавека, не павінна назапашвацца ў абутку. Як вядома, натуральная скура добра прапускае вільгаць і паветра — яна дыхае. У абутку з натуральнай скуры Вы заўсёды будзеце адчуваць сябе ўтульна.

Штучная скура не прапускае вільгаці; нага пацее, і Вас не пакідае адчуваньне мокрых ног, хаця вонкава Ваш абутак можа выглядаць бездакорна.

Вельмі кепска, што штучныя матэрыялы выкарыстоўваюць для вырабу дзіцячага абутку. Раней да імпартных пастаўнікоў падыходзілі з жорсткімі патрабаваньнямі: дзіцячы абутак павінен вырабляцца толькі з натуральных матэрыялаў. Вось чаму мы так рэдка бачылі імпартны дзіцячы абутак у нашых крамах. Сёньня ж тавар паступае бескантрольна, і, купляючы абутак са штучнае скуры сваім дзецям, мы робім памылку.

**Ношаны абутак — ужо не абутак**

Экспэрты неаднойчы выяўлялі ў продажы ношаны абутак. З гэтым часьцей можна сутыкнуцца на рынках. Каб не памыліцца, пры куплі заўсёды зьвяртайце ўвагу на падэшву. Калі ж Вы ўсё яшчэ сумняваецеся, не палянуйцеся дастаць сьцілку і ўважліва яе разглядзець. Калі абутак насілі, то на сьцілцы абавязкова застануцца "пальчыкі" былога гаспадара. Папярочныя складкі таксама сьведчаць пра тое, што абутак насілі.



# Таямнічы Нюрнбэрг

## Да 50-х угодкаў заканчэньня Нюрнбэрскага працэсу

*Нюрнбэрскі працэс цягнуўся 11 месяцаў — з 20 лістапада 1945 г. да 1 кастрычніка 1946 г. Міжнародны трыбунал правёў 403 адкрытыя паседжаньні. Стэнаграфічная справаздача заняла 16.000 старонак. Абвінаваўцы прад'явілі 2630 дакумэнтаў, абарона — 2700. Абвінавачаных баранілі 27 адвакатаў і 54 іх памочнікі. Для запісу працэсу спатрэбілася 27 кілямэтраў магнітнай стужкі.*

*Сакратарыят Міжнароднага ваеннага трыбуналу (куды ўваходзіў і савецкі прадстаўнік А.Паўтарак) падрыхтаваў на ангельскай, францускай, нямецкай і расейскай мовах поўную стэнаграму судовых паседжаньняў разам з дакумэнтамі абароны і абвінавачаньня для афіцыйнай публікацыі. У 1947-1949 г. убачылі сьвет 42 тамы на ўсіх названых мовах, акрамя расейскай. СССР падрыхтаваў свае выданьне — сямітомнік (1957-1961). Натуральна, туды ўвайшлі нават ня ўсе выступы абвінаваўцаў, ня кажучы ўжо аб прамовах абаронцаў і вялізнай колькасьці дакумэнтаў.*

*Чаму ж СССР ня стаў публікаваць матэрыялы Нюрнбэргу ў поўным аб'ёме? Напэўна, прычыны былі тыя ж, што і пры ўтойваньні ад грамадзкасьці сакрэтных пратаколаў да савецка-германскіх дамоваў 1939 году. Бо ў Нюрнбэргу менавіта яны першыя і былі прадстаўленыя абаронай, што, у сваю чаргу, выклікала вострую дыскусію.*

Ідэя міжнароднага судовага працэсу над галоўнымі нямецкімі ваеннымі злачынцамі ўпершыню была прапанаваная Савецкім урадам у 1942 годзе, але доўгі час не знаходзіла падтрымкі ў Вялікабрытаніі і ЗША. 8 жніўня 1945 г. у Лёндане нарэшце была падпісана адпаведная дамова. Быў створаны Міжнародны Ваенны Трыбунал (МВТ). 29 жніўня апублікавалі першы сьпіс 24-х галоўных ваенных злачынцаў, якія несьлі асноўную адказнасьць за ўсе злачынствы, здзейсьненыя гітлераўцамі, і павінны былі стаць перад Трыбуналам.

6 кастрычніка галоўныя абвінаваўцы ад краін-удзельніц працэсу падпісалі ангельскі тэкст абвінаваўчага заключэньня. У яго аснову была пакладзена канцэпцыя агульнага пляну або змовы дзеля дасягненьня сусьветнага панаваньня. За наступныя чатыры месяцы — да першага судовага паседжаньня — МВТ зрабіў велізарную падрыхтоўчую працу. Былі адабраныя і вывучаныя тысячы нямецкіх дакумэнтаў, апытаныя сотні сьведкаў, вывучаныя кілямэтры кіна- і фотастужак, знайдзеныя рэчавыя доказы.



Для кіраваньня савецкай дэлегацыяй у Маскве была створана спэцыяльная ўрадавая камісія. Яе працу, у адпаведнасьці з указаньнямі Сталіна, накіроўваў Молатаў праз Вышынскага. У камісію ўваходзілі генэральны пракурор СССР К.Гаршэнін (старшыня), наркам юстыцыі, прадстаўнік органаў дзяржбясьпекі і іншыя. Дэлегацыя СССР на працэсе ўвесь час знаходзілася пад жорсткім і негалосным кантролем. Усе асноўныя дакумэнты — прамовы абвінаваўцаў, праекты абвінаваўчага заключэньня і іншыя матэрыялы — пасылалі Сталіну, Молатаву, Малянкову, Берыі, Мікаяну, Жданаву, Гаршэніну, Рычкову (наркам юстыцыі РСФСР) і Дэканозаву (намесьнік наркама замежных справаў СССР).

Будучы ў Маскве, члены камісіі не заўсёды адэкватна ацэньвалі абстаноўку на працэсе і часта давалі зусім невыканальныя ўказаньні. У прыватнасьці, на катэгарычнае патрабаваньне Вышынскага савецкі бок імкнуўся атрымаць ад галоўнага абвінаваўцы ад ЗША Р.Джэксана згоду на перадачу яму ўсіх дакумэнтаў, якія датычыліся СССР. Аднак гэта было немагчыма, бо тэму агульнай змовы павінна была асьвятляць амэрыканская дэлегацыя.

Адсалютна невыканальным аказалася і іншае патрабаваньне Вышынскага. Палічыўшы, што савецкая дэлегацыя яшчэ не дастаткова добра падрыхтаваная да працэсу, а ўступная прамова, якую камісія паслала на апрабацыю ў ЦК, не вярнулася з належнымі рэкамэндацыямі, Вышынскі дамагаўся адтэрміноўкі адкрыцьця працэсу на 2-3 тыдні. Аднак на гэты раз партнэры СССР у камітэце абвінаваўцаў не саступілі. Уносілі нэрвознасьць у працу савецкай дэлегацыі і тыя даносы ад прадстаўнікоў органаў дзяржбясьпекі, якія ўвесь час ішлі ў Маскву.

У канцы лістапада ў Нюрнбэрг накіраваўся сам Вышынскі. Адной зь першых ягоных задач тут было складаньне і зацьверджаньне пераліку пытаньняў, якія «зьяўляюцца недапушчальнымі для абмеркаваньня на судзе». Рудэнку было даручана «дамовіцца з іншымі абвінаваўцамі не кранацца шэрагу пытаньняў, каб СССР, ЗША, Англія, Францыя і іншыя Аб'яднаныя Нацыі ня сталі аб'ектам крытыкі з боку падсудных».

Напэўна, Сталін і Молатаў разумелі, што такія дзеяньні, як сумесны зь Нямеччынай захоп Польшчы, далучэньне трох незалежных прыбалтыйскіх дзяржаваў, могуць быць кваліфікаваныя як злачынствы супраць сьвету.

Акрамя гэтага было вырашана:

«Абавязаць т. Рудэнку і т. Нікітчанку папярэдне прагледзець усе дакумэнты іншых дэлегацыяў, якія паступаюць для прад'яўленьня суду, і патрабаваць, каб гэтыя дакумэнты зацьвярджаліся на камітэце абвінаваўцаў. Па кожным дакумэнце т. Рудэнка і т. Нікітчанка абавязаны даваць заключэньне аб яго прымальнасьці з гледзішча інтарэсаў СССР, у выпадку патрэбы не дапускаць перадачы і абвяшчэньня на судзе непажаданых дакумэнтаў».

Дадаткам да гэтага пратаколу служыў пералік пытаньняў:

1. Адносіны СССР да Вэрсальскай дамовы.
2. Савецка-нямецкі пакт аб ненападзе 1939 году і ўсе пытаньні, якія маюць да яго якое-небудзь дачыненьне.
3. Наведаньне Молатавым Бэрліну, наведаньне Рыбэнтропам Масквы.
4. Пытаньні, зьвязаныя з грамадзка-палітычным ладам СССР.
5. Савецкія прыбалтыйскія рэспублікі.
6. Савецка-нямецкая дамова пра абмен нямецкага насельніцтва Літвы, Латвіі і Эстоніі зь Нямеччынай.
7. Зьнешняя палітыка Савецкага Саюзу і, у прыватнасьці, пытаньні аб пратоках, пра нібыта тэрытарыяльныя прэтэнзіі СССР.
8. Балканскае пытаньне.
9. Савецка-польскія адносіны (пытаньні Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі).

1 кастрычніка 1946 году быў абвешчаны прысуд Міжнароднага Ваеннага Трыбуналу. Да страты сьмерцю праз павешаньне былі прысуджаныя: Герынг, Рыбэнтроп, Кейтэль, Розэнбэрг, Франк, Фрык, Кальтэнбрунэр, Штэйхер, Ёдль, Заўкель, Зэйс-Інкварт і Борман (завочна); да пажыцьцёвага турэмнага зьняволеньня — Гес, Функ і Рэдэр; да турэмнага зьняволеньня на 20 гадоў — Шырах і Шпэер, на 15 гадоў — Нэйрат і на 10 гадоў — Дэніц; Шахт, Папэн і Фрычэ былі апраўданыя. Член Трыбуналу І.Нікітчанка заявіў асобнае меркаваньне адносна прысуду для Шахта, Папэна, Геса і абвінавачаных арганізацыяў (Трыбунал не прызнаў злачыннымі арганізацыямі ўрадавы кабінэт фашысцкай Нямеччыны, генштаб і вярхоўнае камандаваньне нямецкіх узброеных сілаў).

Пасьля адхіленьня Кантрольнай радай для Германіі хадайніцтва аб памілаваньні прысуд аб сьмяротным пакараньні быў прыведзены ў выкананьне ў ноч на 16 кастрычніка 1946 г. Целы пакараных і Герынга, які скончыў жыцьцё самагубствам за гадзіну да пакараньня, былі сфатаграфаваны і потым спалены, а прах іхні быў разьвеяны па ветры.

Нюрнбэрскі трыбунал асудзіў ня толькі злачынцаў, якія сядзелі на лаве падсудных, але і фашызм як сыстэму, якая варожая самому чалавецтву.

Савецкі Саюз і Францыя выступілі за арганізацыю наступных міжнародных працэсаў над галоўнымі вайсковымі злачынцамі, у прыватнасьці за неадкладную падрыхтоўку суда над буйнымі нямецкімі прамысловцамі. Але ні ЗША, ні Вялікабрытанія не падтрымалі гэтую прапанову.

*Падрыхтаваў Ігар Кузьняцоў.*

# Радзіма Дзюрэра



Нюрнбэрг, старажытнае места ў Баварыі на рэчцы Пэгніц, магло застацца ў гісторыі як радзіма вечнага Альбрэхта Дзюрэра — геніяльнага мастака, тэарэтыка мастацтва, які зьявіўся тут на сьвет у 1471 годзе. І дагэтуль у Нюрнбэргу існуе адна з найлепшых у сьвеце алоўкавых фірмаў.

У гісторыі Беларусі гэты горад, апроч іншага, зазначаны і тым, што тут выйшла рукапісная газэта, якая паведамляла пра разгром пад Воршаю расейскага войска, — ці ня першая ў сьвеце газэта.

А праз некалькі стагодзьдзяў Нюрнбэрг стаў вядомы ўсяму сьвету. Але ня ўласнай гісторыяй, а гістарычнай дзеяй, якая мела сусьветнае значэньне. Упершыню ў гісторыі на лаве падсудных апынуліся тыя, хто прайграў вайну.

Да гэтага суда прайгралыя вайну караліся стратамі тэрыторыі, кантрыбуцыямі, рэпарацыямі... У 1945 годзе сьвет вырашыў пакараць ня нацыю, якая вайну прайграла, а нацыю, якая прывяла да ўлады тых, хто перайтварыў вайну ў ідэалёгію. Міжнародны Трыбунал асудзіў ідэалёгію нямецкага нацыянал-сацыялізму. Сярод асуджаных не было беспартыйных. Судзілі партыю, дзяржаўную службу бясьпекі і тайную паліцыю. Дванаццаць чалавек былі прыгавораныя да страты, сем — да пажыцьцёвага альбо доўгага зьняволеньня...

Упершыню сьвет прызнаў, што ёсьць злачынства большае за забойства — гэта забойства паводле ідэйных матываў, і яно ня можа мець даравальня, колькі б ні мінула часу. Тут упершыню прагучаў тэрмін: «злачынства супраць чалавечнасьці». Была створаная міжнародная прававая база для вышуку і пакараньня такіх злачынцаў.

Праз дзясяткі гадоў ледзь не штогод з розных закуткоў сьвету прыцягваюць да суда тых, хто загадваў забіваць і забіваў сам. Памятаеце «ката Ліёну» Кляўса Барб'е? А сёньня, праз паўстагодзьдзя, знайшлі яшчэ аднаго — Эрыха Прыбке, якога судзяць у Рыме. Прыкладаў можна прывесьці шмат.

Урокі Нюрнбэргу не прайшлі марна. Не мінула паўстагодзьдзя, як месцы на лаве падсудных, якія займалі тыя, хто служыў у гестапа, занялі тыя, хто служыў у «Штазі». Нямеччына выракласа свайго камунізму гэтаксама, як і свайго нацызму. Можа, памятаеце Эрыха Хонэкера?

Беручы прыклад зь немцаў, ад ідэйных вупыроў пазбавіліся і нацыі Сярэдняе ды Ўсходняе Эўропы. Законы людзкасьці сталі неаспрэчнымі і непахіснымі для тых, хто лічыць сябе эўрапейцамі.

У чым сэнс правасудзьдзя, ужо з вызначэньня — справядлівага суда? У немінучасьці пакараньня. У людзкой веры ў тое, што зло, як бы глыбака ні пусьціла яно карані, будзе асуджана.

Неасуджанае зло прарастае новымі і новымі атожылкамі. І людзі, ня маючы веры ў закон справядлівасьці, ня бачаць мяжы паміж сьвятлом і цемраю. Непрыцягнуты да суда разам з нацызмам, камунізм, які мусіў бы падзяліць адказнасьць за распальваньне Другой сусьветнай вайны, прарос жахлівым лесам у Кітаі, Карэі, Кампучыі, крывавым тэрорам — у Афрыцы, Лацінскай Амэрыцы. Ці не таму мы ўсё яшчэ памятаем Нюрнбэрг, у спадзеве на трыюмф розуму?

Яшчэ адзін досьвед: разам з тымі, хто аддаваў загады, будуць пакараныя і тыя, хто іх выконваў. Па іроніі, галоўны віноўнік «урачыстасьці» ў Нюрнбэргу не прысутнічаў. Як, дарэчы, праз гады і Хонэкер не падзяліў лёсу сваіх паплечнікаў, якія адбываюць цяпер свае тэрміны за кратамі.

Хто скажа, што гэтыя ўрокі не для нас? Калі людзі замест выдатных алоўкаў біруць у рукі гумовыя палкі, яны мусяць памятаць пра свой непазьбежны Нюрнбэрг.

**Сяргей Харэўскі**

Адам Глёбус

# Зямля і калодзеж

## *Занатоўкі эгаіста*

Бацькаў бацька, дзед Валодзя не любіў віроў, але шанаваў той кавалак рэчкі Ятранкі, што плыве праз нашу зямлю.

«Вось наша рэчка, і гэтае балота маё, а вунь там ляжыць тваё поле. Зямлі няшмат, але хопіць, каб паставіць незалежную гаспадарку. Дзяды твае і прадзеды куплялі зямлю па лапіку, па палосцы, каб сабраць у гаспадарку. Сабралі, пабудаваліся, зажылі... Немцы спалілі хату. Рускія забралі зямлю. Табе, Бог дасьць, давядзецца пачынаць спачатку. Толькі памятай, калі раптам надарыцца магчымасьць вярнуць зямлю па дакумэнтах, не пагаджайся браць іншую, быццам больш яе і лепшая. Настойвай, каб аддалі бераг Ятранкі, які сто гадоў наш. Бо спрытныя паны абавязкова нечага не дададуць, каб ты штогод на паклон хадзіў, бо ці лесу не хапацьме, ці то сенажаці. На нашай зямлі дзьве каровы, цяля, авечак дзесяць, два кабанчыкі ўтрымаць можна. Куры і трусы таксама не зашкодзяць. Каня давядзецца наймаць, ці зараз ёсьць чэскія трактары, варта ўзяць. Зажывеш... А не захочаш на зямлі рабіць — аддасі ў арэнду. Зямлю купляй і не прадавай. Мне цяжка было: і вайна, і хата згарэла, а ні лапіка не прадаў. Забралі, абрабавалі — іншая рэч. Сьвет мяняўся і будзе мяняцца. Бяжыць рэчка ў мора, а хмаркаю вяртаецца назад, так і зямля вяртаецца да гаспадара».


Фота Вячаслава Адамчыка, 1980 год.

Дзед Валодзя верыў, што я вярну нашу ніву. І я спрабаваў выканаць запавет. Як толькі пачалі паціху калгасныя палі раздаваць арандатарам, я прыгатаваўся да барацьбы.

У той рэвалюцыйны час працаваў я ў часопісе «Крыніца», дзе спраўна ладзіліся штотыднёвыя гулянкі з жывой і мёртвай вадою. Сярод гасьцей «Крыніцы» апынуўся старшыня таго самага калгаса, дзе ляжыць дзедава зямля. Асьмялеўшы пасьля кілішка, я падсеў да чырванатварага старшыні. Ён быў згодны даць любую іншую зямлю, толькі ня тую, што пазначана ў нашых дакумэнтах.

«Усё зьмянілася, дзе рос лес, легла поле, вада і тая рэчышча мяняе, адзін бераг падмываецца, а другі асотам зарастае. А ты хочаш усё на стары капыл перакуліць. Мне не падабаецца ня тое, што ты зьбіраесься калгасна-саўгасную зямлю ў прыватны сэктар перадаць, абурае тэндэнцыя. Такія, як ты, на зямлі не працуюць, а ўсіх вучаць жыць. Каб мы былі ў іншым месцы, я б інакш гаварыў. Апошняе слова: пакуль я гаспадару, не палюбуесься ты сваёй зямлёю».

Чырвананосы старшыня і ўсярэдзіне быў чырвоны, як фашыстоўскі штандар. З такімі чырвонымі старшынямі дзедавыя землякі гаварылі сапраўды па-іншаму. Першага кіраўніка калгасу падпільнавалі ў вёсачцы Таўкуны дый застрэлілі на кладцы. Так той першы і не перайшоў рэчку Ятранку. Бадай, і апошняга чакае начная сустрэча на кладцы. Вядома, нельга два разы зайсьці ў адну і тую ж ваду. Але хто сказаў, што чырванапысага старшыню застрэляць каля Таўкуноў? Колькі тых рэчак у Беларусі?! І штодня на кожную рэчку, на кожную крыніцу, на кожны калодзеж апускаецца ноч.

Плынь часу, як вада з уласнага калодзежа.

«Вось надумаўся капаць новы калодзеж на старасьці гадоў, — казаў дзед Валодзя, — здаецца, да суседзкага два крокі ступіць. Ніхто ня супраць, каб мы ў Кумагэраў ваду бралі. Толькі суседава дабрыня


Здымкі Алены Адамчык.

Уладзімер Арлоў

# Вустрыцы а пятай

## *Зацемкі з манхэтэнскіх ваколіцаў*



З вышыні 35.000 футаў Шатляндыя выглядае вясковаю коўдрай з брунатных, зялёных і жоўтых шматкоў розных адценьняў, на якой, скруціўшыся ў клубкі, прыгрэлася парачка пухнатых белых котак.

* * *

Калі хтосьці не захоча даць веры, што ў XVI ст. я пазіраваў Лукасу Кранаху Старэйшаму для ягоных «Самсона і Далілы», няхай знойдзе адпаведную залю ў Мэтраполітэн-музэі. Я ў кашулі свайго ўлюбёнага малахітавага колеру заснуў, уладкаваўшы галаву на грудзях у пяшчотнай каханкі, якая ўжо ведае таямніцу мае нечалавечае сілы. Можна ўявіць, зь якой вострай асалодаю левая рука Далілы лашчыць мае рассыпаныя па вішнёвым аксаміце сукенкі кудзеры, бо правая рука пасьпела ўзброіцца нажніцамі, а ў садзе, таймуючы радаснае нецярпеньне, ужо затаіліся філістымляне. Хто паслужыў мастаку мадэляй Далілы, пакуль невядома.

* * *

У царкве Маці Божай Жыровіцкай у Нью-Брансуіку, штат Нью-Джэрсі, раптам заўважаеш, што рэчаіснасьць набыла нейкую новую якасьць. Адчыняюцца дзьверы, і ў абліччы зграбнай сьветла-русай дзяўчыны знаходзіш адказ: у гэтых сьценах, як і наагул паўсюль, дзе зьбіраюцца беларусы, фантастычна высокая для Амэрыкі канцэнтрацыя прыгожых жанчын.

* * *

Расейскамоўная, зь мяккім габрайскім акцэнтам газэтка «Вечерний Нью-Йорк» зьмясьціла чульлівае паведамленьне пра 15-фунтавага лёбстэра Карліта, які доўгія гады працаваў рэклямным агентам у супэрмаркеце і быў адпушчаны на волю актывістамі таварыства абароны жывёлаў. На думку актывістаў, Карліт пражыў на сьвеце болей за чвэрць стагодзьдзя. У двух крыху меншых лёбстэраў (а па-наску, марскіх ракаў), якіх сябра прыцягнуў з крамы на рагу 1-й авэню і 6-й стрыт, працоўная біяграфія аказалася карацейшаю.

Пасьля трох пінтаў піва і лёбстэравай шыі з тузінам каралеўскіх крэвэтак спалучэньне ярка-чырвоных кавалкаў абсмактанага панцыру зь зялёным бутэлечным шклом ужо не выклікае ранейшае ўкveленасьці. Цяпер можна камфортна адкінуцца ў фатэлі і пад прыемнае гудзеньне кандыцыянэру аддацца плыні ўспамінаў пра піянэрскае дзяцінства, калі разам зь сябрамі ўцякаў зь лягеру на Ветрынскае возера, варыў там у вядры дробных айчынных ракаў, падглядваў за старэйшай важатай і маладым маёрам зь мясцовага вайсковага гарадка, а ўвечары ўпотай спрабаваў складаць вершыкі. У тым ліку і пра Амэрыку:

*В переулках трущобных*
*И на мусорных кучах*
*Вспоминаешь невольно*
*О Родине...*

* * *

Калі а пятай раніцы паводле менскага часу возьмесься жаваць сьвежую вустрыцу, ня выціснуўшы на яе струменьчык цытрынавага соку, найдакладнейшым з усіх магчымых атрымаецца параўнаньне ейнага смаку з прозаю народнага пісьменьніка Беларусі Івана Навуменкі.

* * *

Пачутая ў Амэрыцы беларуская показка: у вітрыне польскае кнігарні на Манхэтэне выстаўлена кніга Хэмінгуэя «Stary i morze». «Ого! – заінтрыгавана спыняецца нейкі тутэйшы беларус. – Стары і – можа!»

* * *

Хоць і надзвычай рэдка, аднак такую мурынку ў Нью-Ёрку –дзе-небудзь у музэі ці на мастацкай выставе – таксама сустрэнеш: на шостым, а мо і на сёмым дзясятку, але з грацыёзна-субтыльнаю дзявочай постацяй і зь невялікай галоўкаю, чыю беззаганную дасканаласьць дазваляе ацаніць неверагодна сэксуальная фрызурка, вынаходнік якое здолеў пакінуць слой срэбных валаскоў якраз такой празрыстае таўшчыні, каб праз яе сьвіцілася шакалядавая асноведзь.

* * *

Уявіце вычварныя камбінацыі жылаў і артэрыяў ускрытага паталягаанатамам трупу, і перад вамі будзе дакладная насьценная схема манхэтэнскіх аўтобусных маршрутаў.

* * *

Заплюшчу перад сном вочы і зноў убачу вечар на горным летніку ў Юлі і Паўла Андрусішыных: хвоі, дробны, але непалахлівы амэрыканскі зайчык у траве за дзесяць крокаў ад дому, вялікая клюмба і падобныя да нашых хрушчоў калібры над белымі крэмавымі і ружовымі кветкамі духмянае табакі. Памяць дапоўніць гэтую вартую пэндзля Анры Русо ідылію ўсяго адной адсутнай дэталяй — сьвежым нумарам «The New York Times» з рэдакцыйным артыкулам «The Tyrant of Belarus».

* * *

Прыемна бывае сустрэць на ранішнім Манхэтэне добрую знаёмую. Асабліва калі гэта родная пляменьніца Івана і Антона Луцкевічаў, былая жонка Аўгена Калубовіча і цяперашняя бабуля сьпевака Данчыка Яніна Каханоўская, якую некалі ў Ракуцёўшчыне насіў на руках Максім Багдановіч.

Учора мы вярталіся з гор, і яна ўзгадала, як у чэрвені 1941 году на менскай вуліцы бесклапотна мыліся агаленыя да поясу нямецкія жаўнеры, а пастаўлены побач з калёнкаю патэфон сьпяваў:

*Если завтра война,*
*Если завтра в поход...*

* * *

Ва ўкамплектаванай суцэльнымі рарытэтамі бібліятэцы спадарыні Яніны знаходжу выдадзеныя ў 1950-м у Парыжы «Воспоминания» Івана Буніна, дзе ён па чарзе разьбіраецца зь Ясеніным («талант пошлости и кощунства»), з Бальмонтам («всю жизнь поистине изнемогал от самовлюбленности»), з Брусавым («бессовестно лгал о своем знании языков») etc.

А нашае зацятае недрукаваньне густа аброслага мітамі дзёньнічка М.Багдановіча (няхай там гаворыцца не зусім пра літаратуру і літаратараў) выглядае дэманстрацыяй нацыянальнае няўпэўненасьці і ня болей.

* * *

Ураньні Зянон чытае мне свой верш пра траву, што пажоўкла так, як на радзіме, але там, за вакном, не радзіма.

* * *

Пасьля стрэсу ад пераломy клубу Натальля Арсеньнева колькі дзён гаварыла на чысьцюткай расейскай мове.

* * *

На выставе афрыканскага мастацтва ў музэі Гугенхайма, сярод чорных камэрунскіх скульптур, вясёленькіх суданскіх масак і ўтульных ахвярных камянёў з Танзаніі, над якімі спрытна завіхаліся продкі сёньняшніх чарнаскурых наведнікаў, чыя колькасьць набліжаецца да крытычнае масы, халоднай зьмейкаю высьлізгвае аднекуль думка аб тым, што гадоў праз пяцьдзясят тут адчыніцца выстава эўрапейскага мастацтва і на нізе гэтай геніяльнай бэтоннай сьпіралі гэтаксама, як і цяпер, будуць граць і сьпяваць музыкі, але ўжо ня чорныя, а белыя, і, калі яны, валячыся з ног ад стомы, зробяць кароткую пярэрву, натоўп белазубых слухачоў

зьменлівая, як надвор'е ў верасьні. Вось я ўсё жыцьцё меў калодзеж. Вянкі старога зруба згнівалі, я капаў новы. Цяперака куплю бэтонныя колы, пастаўлю вечны калодзеж і да апошняга дня ваду меціму, і людзям застанецца. Паміраць зьбірайся, а калодзеж капай. Вось я вапну купіў, ажно дзьве машы- жом рэж і на хлеб маж. Можна такі тынк зрабіць, што ня трэсьне і сто гадоў прастаіць. Пра сто гадоў жартам кажу. Але вапна добрая, не сумнявайся. Як нашу ніву вернеш, як поле, рэчку, лес сабе забярэш і пачнеш у садзе дом ставіць, тады і адкапаеш дзедаў скарб».

Зямлю я пакуль што не вярнуў,



ны, а дом цагляны не паставіў, саветы не далі, не пэрспэктыўная наша вёска, сказалі, і падмурак трактарам разьвярнулі. Так і ляжыць вапна ў зямлі, за старым калодзежам, мэтры тры ўздоўж платадмерай і капай. Праз нашу вапну столькі дажджоў прайшло, што яна стала як масла, хоць бяры, на- дом не паставіў і вапну не адкопваў. Усяму свой тэрмін надыходзіць. Напэўна, не прыйшоў мой час дом будаваць і кроквы ўздымаць вышэй за суседавы. А таму дажджы ўсё яшчэ гасяць дзедаву вапну, што ляжыць за адзінаццаць крокаў ад новага калодзежа.

*Менск, 1996 г.*

# раніцы

не пачне пляскаць у ладкі, а незадаволена прысунецца бліжэй...

Намагаючыся абагнацца ад гэткага відовішча, вы крыху пасьпешліва заходзіце ў бакавую залю, дзе дамінуюць два велізарныя творы: на адным – няроўна адцяты чалавечы ступак, на другім – жыўцом вырванае блакітнае вока. (Якога колеру скура на ступаку – пытаньне для дэбілаў.) Вы амаль пэўныя, што вам паказваюць зьмешчаныя ў фармалін часткі чалавечага цела і, толькі наблізіўшыся, разумееце: гэта ўсяго толькі ўмела падсьветленыя слайды. Думаць пра тэхналёгію здымкаў чамусьці ня прагнецца.

* * *

Зьяўленьня ўбачанага на выставе ступака міжволі чакаеш у вагоне падземкі, дзе зарабляе свае даляры факір-індус, аднак, на шчасьце, ён выцягвае з магічнага капелюша традыцыйную галубку.

* * *

Гэтай навіне пакуль што ня веру: Арсеньнева страціла зрок.

* * *

Адна з істотных хібаў (ці вартасьцяў?) славы ў тым, што яна імкнецца вызваліць свайго ўладальніка ад асабістага жыцьця. Справядлівасьць гэтага труізму яшчэ раз пацьвярджаецца на выставе працаў Тулюз-Лятрэка, дзе прадаецца ягоны багата ілюстраваны жыцьцяпіс. Адзін з фотамастакоў засьпеў маэстра ў часе будзёнай, але важнай справы. Каб у чытача зьніклі ўсялякія сумневы, дыптых забясьпечаны гранічна канкрэтным назовам – «Defecation on a beach». Пясьняр «Мулен Руж» адлюстраваны, так бы мовіць, у апагеі творчага напружаньня і трошкі пазьней, у ціхамірную хвіліну падцягваньня штаноў.



* * *

Эміграцыйны гісторык Леў Акіншэвіч лічыў асноўнай прычынай палітычнай паразы Вялікага Княства Літоўскага «дэманстратыўны выбар ягонай элітай заходняга (а ня ўсходняга) шляху». Заходняя культура, на ягоную думку, прышчаплялася да іншага культурнага пня, і ў выніку чым мацнейшая была «вэстэрнізацыя», тым большы супраціў яна сустракала ў самой краіне і асабліва звонку – найперш з усходу.

Займаючыся экстрапаляцыяй Акіншэвічавай высновы, ловіш сябе на тым, што празьмерна ўважліва разглядаеш зусім маладыя ногі жанчыны, якая вязе цябе ў аэрапорт Кенэдзі.

* * *

Шматкалёрныя агні вечаровага Нью-Ёрку за ілюмінатарам складваюцца ў дакладныя копіі арнамэнтаў ацтэкаў і інкаў з Мэтраполітэн-музэю.

* * *

У нашым «Боінгу-767» занятае ў лепшым разе кожнае дзясятае месца. Цяжка пазбыцца думкі, што займацца любоўю тут было б значна спакайней і ўтульней, чым у тым самалёце, дзе падарожнічала славутая німфаманка Эмануэль-І.

* * *

Над узьбярэжжам Эўропы добра відаць, як, сустрэўшыся з морам, вялікія рэкі яшчэ даволі доўга працягваюць свой шлях і захоўваюць абрысы дзякуючы адметнаму колеру вады. Ранішняе назіраньне выцягвае ланцужок асацыяцыяў і аналёгіяў – зрэшты, дастаткова банальных, каб пераносіць іх на паперу.

*Верасень, 1996 г.*

# Размова з чытачамі

## АНКЕТА «НН»

220123 Менск, а/с 71, «Наша Ніва», Анкета

Дарагі сябра!

Мінула ўжо дастаткова часу, каб мы маглі абмяняцца думкамі і рабіць наш з Вамі тыднёвік разам. Нішто не замінае нам мець такую «Нашу Ніву», якая б уяўлялася ідэальнай. Пасьля зьмены канцэпцыі выданьня ў 1996 годзе рэдакцыя «НН» увесь час экспэрымэнтуе, прапануючы розныя тэмы, жанры, розных аўтараў. Нешта з гэтага замацоўваецца (магчыма, не заўсёды апраўдана), нешта адпадае (таксама, можа быць, дарэмна). Словам, прыйшоў час для ацэнкі нашае працы чытачамі. Мы загадзя ўдзячныя Вам за ўважлівае прачытаньне анкеты і за адказы на яе. Пры гэтым Вы можаце назваць або не называць сябе. Сярод тых лістоў-адказаў, у якіх будуць пазначаныя прозьвішчы і адрасы, мы разгуляем дзесяць прэзэнтаў – 10 асобнікаў зусім новай дакумэнтальнай кнігі выдавецтва «Наша Ніва» – «Менская вясна – 1996». Гэта па-свойму унікальнае для Беларусі, багата ілюстраванае выданьне. Адпраўце, калі ласка, Вашы запоўненыя анкеты да 15 кастрычніка. Лічбу насупраць выбранага Вамі адказу абвядзіце колкам.

Вялікі дзякуй.

**1. Як даўно Вы чытаеце аднаўленую «Нашу Ніву»?**

1. З самага першага нумару (травень 1991 г.).
2. З 1991-95 г.
3. З 1996 г.

**2. Як Вы ставіцеся да новай (зьмененай у 1996 г.) канцэпцыі «НН»?**

1. Стала значна лепш.
2. Стала лепш.
3. Ня бачу істотных зьменаў.
4. Стала горш.
5. Стала значна горш.

**Назавіце некалькі пазыцый, паводле якіх, на Вашу думку, выданьне стала лепшым альбо горшым (можна не адказваць):**

..........................................................................

**Назавіце, што з «Нашай Нівы» 1991-95 гадоў Вы б вярнулі ў сучасны тыднёвік (можна не адказваць):**

..........................................................................

**3. Ці ведаеце Вы гісторыю «Нашай Нівы» пачатку XX ст. (агульныя зьвесткі, імёны пачынальнікаў, аўтараў)?**

1. Так.
2. Не.

**4. Наколькі, па-Вашаму, сёньняшняя «НН» працягвае справу газэты пачатку XX ст.?**

1. Сучасная «НН» працягвае справу легендарнай газэты.
2. Яшчэ рана адказваць на такое пытаньне.
3. Выдаўцы сучаснай «НН» беспадстаўна прысвоілі імя легендарнай газэты.

**Якія з пазыцыяў «Нашай Нівы» пачатку XX ст. Вы хацелі б бачыць у сучаснай «НН» (можна не адказваць)?**

..........................................................................

**5. Як Вы ацэньваеце ў «Нашай Ніве» (паводле пяцібальнай сыстэмы):**

1. аб'ём (колькасьць старонак) ..........................
2. друк (якасьць) ..........................
3. ілюстрацыі ..........................
4. чытэльнасьць і памер шрыфтоў ..........................
5. першую старонку ..........................
6. структуру («НН» + Інфарматар) ..........................

Магчыма, Вам захочацца нешта ўдакладніць?

..........................................................................

**6. Якія сталыя пазыцыі ў «НН» Вы чытаеце і як?**

чытаю (1) праглядаю (2) не чытаю (3) не заўважаю (4)

1. Палітычны камэнтар. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
2. Рэпартаж. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
3. Дзёньнікі. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
4. Апавяданьні (проза). .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
5. Вершы. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
6. Каляндар. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
7. Гістарычныя матэрыялы. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
8. Міжнародны камэнтар. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
9. Фотаконкурс. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
10. Інтэрвію. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
11. Promenade. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
12. Рэцэнзіі. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
13. Бэстсэлеры Беларусі. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
14. Лісты чытачоў. .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
15. Тэксты, набраныя лацінкай .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4

Магчыма, Вы захочаце нешта дадаць?

..........................................................................

**7. Зь першага нумару аднаўленае «НН» газэта стваралася як выданьне аўтарскае, якое аддае перавагу суб'ектыўнаму погляду на жыцьцё. Таму для нас важна высьветліць, каго з аўтараў «НН» Вы чытаеце і як?**

чытаю (1) праглядаю (2) не чытаю (3) не заўважаю (4)

1. Славамір Адамовіч
*(рэпартажы, вершы).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
2. Вадзім Александровіч
*(міжнародны камэнтар).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
3. Андранік Антанян
*(дзёньнік, апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
4. Алесь Аркуш
*(дзёньнік, апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
5. Уладзімер Арлоў
*(эсэ).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
6. Сяргей Астраўцоў
*(дзёньнік, апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
7. Натальля Бабіна
*(дзёньнік, апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
8. Ігар Бабкоў
*(камэнтар, проза, вершы).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
9. Сяргей Баркоўскі
*(камэнтар).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
10. Зьміцер Бартосік
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
11. Адам Глёбус
*(«Занатоўкі эгаіста»).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
12. Алег Дашкевіч
*(інтэрвію, камэнтар).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
13. Алег Дзярновіч
*(камэнтар, культуралягічныя і гістарычныя артыкулы).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
14. Андрэй Дынько *(апавяданьні, міжнародны камэнтар).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
15. Валянцін Калнін *(гістарычныя артыкулы, эсэ).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
16. Аўген Касьцюшка
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
17. Паўліна Качаткова
*(апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
18. Севярын Квяткоўскі *(дзёньнік, Каляндар, інтэрвію).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
19. Ігар Кузьняцоў *(гістарычныя артыкулы, дакумэнты).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
20. Уладзімер Лобач
*(апавяданьні, нататкі).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
21. Ганна Матусэвіч
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
22. Сяргей Пульша
*(камэнтар).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
23. Марыя Роўда
*(апавяданьні).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
24. Генадзь Сагановіч
*(гістарычныя эсэ).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
25. Сяржук Сокалаў-Воюш
*(вершы).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
26. Таццяна Сьнітко
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
27. Сяргей Харэўскі
*(«Конкурс»).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
28. Сяргей Шупа
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4
29. Лявон Юрэвіч
*(дзёньнік).* .................. 1 .... 2 .... 3 .... 4

**8. Калі ласка, назавіце прозьвішча найлепшага, на Вашу думку, аўтара «НН»:**

..........................................................................

**9. Якая тэматыка цікавіць Вас у «НН» найперш?**

..........................................................................

**10. Якая публікацыя «НН» зьвярнула на сябе Вашу асаблівую ўвагу (прыгадайце, калі ласка, назву, аўтара або тэму)?**

..........................................................................

**11. Якую з публікацыяў гэтага нумару Вы прачыталі з асаблівай цікавасьцю?**

..........................................................................

**12. Якой з публікацыяў гэтага нумару, на Вашу думку, магло ў «НН» і ня быць?**

..........................................................................

*Працяг на старонцы 16.*

